Год VI. ЖНІВЕНЬ—ВЕРАСЕНЬ 1928. Кніжка 6—7 (16-17)






# Першы Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі.

## Зьмест:



Друкарвіа С. Бэккера, Вільня вул. Субач 2.

# САХА

## Першы Беларускі месячнік сельскай гаспадаркі.

# Аб камасацыі.

На руінах старой беларускай вёскі будуецца новае жыцьцё. Замест зграмаджоных у адно месца гаспадарак, мы цяпер пачынаем бачыць на нашай Бацькаўшчыне параскіданыя па цэлым абшарам яе халупкі. Камасацыйны рух ахапіў усю Заходнюю Беларусь. Польскі ўрад напружвае ўсе свае сілы, каб у хуткім часе пераліцаваць наш край.

Ці прыходзіцца нам шкадаваць сваей вёскі, ці радавацца, што селянін пачынае з ёй жагнацца?

Падыходзячы да гэтага пытаньня з навуковага пункту гледжаньня, мы мусім сьцьвярдзіць факт, што наша сучасная вёска з яе шахаўніцай, з параскіданымі далёка ад сядзібы кусочкамі і шнуркамі зямлі, стаяла на перашкодзе прогрэсу ў сельскае гаспадарцы. Адрадзіць наша земляробства, падняць прадукцыйнасьць працы нашага селяніна, разьвязаць рукі больш руплівым і сьвядомым гаспадарам у вёсцы было вельмі трудна, бо часта пры нашай інэртнасьці ўсялякае пачынаньне, маючае на мэце паляпшэньне сваей гаспадаркі шляхам яе інтэнсыфікацыі, сустрэкала адпор з боку менш сьвядомых гаспадароў. На гэтым грунце пачыналі паўставаць непажаданыя конфлікты, часта заканчваючыяся самавольнай расправай. Шмат дзе вёска зьяўлялася гняздом асабістых ворагаў, што яшчэ больш павялічвала разлад у вёсцы.

Вось усё гэта прымушае шукаць выхаду з гэтага ненармальнага становішча і выхадам гэтым, здавалася, была-б пры сучасных палітычных абставінах нашага краю—камасацыя. Але... вось тут мы мусім аб‘ектыўна разглядзець другі бок гэтага пытаньня—палітычны.

Камасацыя ня ёсьць „вынаходам“ Польскага ураду. Пасьля рэвалюцыйнай расейскай „рэпэтыцыі“ ў 1905 годзе, вядомы расейскі „рэфарматар“ Сталыпін зьвярнуў увагу на сялянства. Каб знайсьці расейскай рэакцыі хаўрусьнікаў з пасярод сялян, якія ў масе дамагаліся зямлі, а разам і іншых правоў і натравіць багацейшых сялян на бяднейшых (стаўка на сільных) была апрацавана „зямельная рэформа“, па якой кожны гаспадар мог атрымаць сваю зямлю ў адным куску. Радыкальная расейская прэса сустрэла гэту „рэформу“ з абурэньнем. Голад на зямлю ад гэтага не паменшыўся. Бяднейшыя сяляне, як жылі бедна ў вёсцы, такое жыцьцё знашлі і на хутары.

Прайшлі ваенныя і рэвалюцыйныя часы. Думка ў сялян Зах. Беларусі—атрымаць зямлю, ня толькі замёрла, але яшчэ стала больш вострай. Але на жаданьне мясцовага беларускага насельніцтва зямельнай рэформы, мы атрымалі асадніцтва і камасацыю ў той форме, якую яе прыпаднёс расейскаму сялянству Сталыпін.

Дык паўстае пытаньне, што-ж можа нам даць у недалёкай будучыні комасацыйны рух на на Беларусі?—Бяднейшаму сялянству, гаспадарка якіх складаецца з 1-2-3-х дзесяцін комасацыя даць карысьці ня можа, бо трэба наперад спадзявацца, што бяз прырэзкі зямлі з акалічных абшараў, ён на карлікавым хутары свайго дабрабыту не палепшае. Перанос тут будынку на новае месца, што часта можа каштаваць вартасьці ўсяго зямельнага надзелу будзе—толькі лішняй працай.

Ці ёсьць надзея на прырэзку зямлі? Пакуль Польскі Урад ня будзе тасаваць прымусовага адбіраньня зямлі ад абшарнікаў — надзеі таксама няма.

Дык вось гэтыя факты прымушалі і прымушаюць нас заняць да комасацыі, (у той форме, у якой яно цяпер праводзіцца) становішча асьцярожнае.

Зямлі! Зямлі! Вось пытаньне, якое перш трэба разглядзець, а тады пераходзіць да комасацыі.

# Вапнуем глебу.

Калі мы спалім расьлінку і зробім аналіз з попелу, дык там заўважым значны % вапны; з другога боку, гэта самая вапна знаходзіцца ў зямлі. Гэтыя факты паказваюць, што наша збожжа патрабуе вапны. Калі мы зьвярнёмся да навуковых дасьледаў, дык тыя красамоўна пацьвярджаюць, што нашы культурныя расьлінкі адзыўчывы на вапнаваньне глебы. Вапна патрэбна для росту збожжа таксама, як азот, фосфар і паташ.

Усе землі маюць вапну, але не ў аднолькавай колькасьці. Лёгкія глебы яе маюць найменш, а зьвязлыя—трохі больш. Дзякуючы лёгкараспушчальным асаблівасьцям вапны, яна хутка выпаласкваецца, што часта выклікае недахоп вапны ў нашых глебах, асабліва на лёгкіх, пяшчаных землях.

Недахват у зямлі вапны пагаршае якасьць глебы і зьменшвае ўраджайнасьць яе. Наша збожжа, як жыта, пшаніца, ячмень і іншыя, шмат вапны не патрабуюць, але канюшына і ўсе стручковыя расьлінкі, потым грэчка і акаповыя (бульба, буракі, рэпа) бяз вапны расьці ня могуць і ўраджай іх часта залежыць ад колькасьці вапны ў глебе. Бяз вапны расьлінкі часта палягаюць, лёгка падпадаюць пад розныя хваробы і шкоднікаў.

Але вапна патрэбна нашым землям ня так, як спажыва для расьлінкі, а галоўным чынам, як срэдства для паляпшэньня фізычных уласьцівасьцей глебы. Ад прысутнасьці вапны зьмяняецца будова зямлі. Пяскі робяцца больш зьвязлымі, бо асобныя пяшчынкі зьвязваюцца ў невялікія грудкі, ад чаго глеба ня так высыхае, трудней прапускае ў глыб спажыву з вадой і робіцца больш адналітай. На цяжкіх зьвязлых глебах вапна якраз робіць іншы ўплыў. Гэтыя землі вязкія і часта мокрыя. У такіх землях мала паветра, часта яны парастаюць мохам і забалачваюцца. Ад недахопу паветра стварaюцца розныя кіслотныя рэакцыі з зялезістымі злучэньнямі, якія вельмі шкодна адбіваюцца на росьце расьліны. Ад недахопу вапны на цяжкіх глебах стварaюцца добрыя ўмовы для зьяўленьня коркі, шкоднасьць якой для збожжа ведае кожны наш селянін, а таксама ад адсутнасьці вапны і цяжкія землі хутчэй высыхаюць і трэскаюцца.

Удабрэньне зямлі, (асабліва квасных, мокрых і цяжкіх, як роўна і сенажацяў) робіць часта вялізны ўплыў на ўраджайнасьць глебы і добра аплачваецца. Пад дзеяньнем розных хімічных рэакцыяў, што выклікае прысутнасьць вапны, ў глебе адбываюцца хімічныя працэсы, вынікам якіх бывае перавод спажывы з трудна спажываемай для збожжа формы ў лёгкаспажываемую. Квасьнасьць зямлі, шкодныя зяле-

зістыя злучэньні ад вапны нэйтралізуюцца. Фізічныя ўласьцівасьці глебы ад вапны паляпшаюцца, глеба робіцца больш цёплай.

Пры ўжываньні вапны на ўдабрэньне палёў, трэба набываць яе сухой і сьвежай. Такая вапна, як удабрэньне, больш карысная. Уносяць яе па здыйму расьлінкі. Перад пасевам збожжа ўносяць на поле вапну не пазьней 3-х тыдняў. Пасеяную вапну трэба заараць, а калі яна сеяцца па ральлі, дык трэба добра перамяшаць цяжкімі баронамі, або культыватарамі.

Бяручы пад увагу ўсё вышэйсказанае і тыя абставіны, што нашы землі ад веку не абагашчаліся вапнай штучна, у той час, як расьлінкі з кожным годам абяднялі яе натуральны запас, мы мусім больш пільна зьвярнуюць увагу на вапнаваньне зямлі.

Якія-ж землі больш патрабуюць вапны. — Нашы крашакі (белесаватыя суглінкі) часта маюць натуральнага запасу вапны ў дастатку. Падзолы, пяскі, мокрыя і цяжкія гліны, сенажаці і выганы заўсёды рэагуць на удабрэньне іх вапнай павышэньнем ураджаю.

Каб не наразіць сябе на страту пры вапнаньні зямлі, гаспадар мусіць сам пераканацца, ці мае яго зямля вапну. Для гэтага паліваюць зямлю сільным воцатам або 10% якой небудзь сільнай кіслатой (серчанай, азотнай). Ад прысутнасьці ў зямлі вапны, зямля, аблітая воцатам ці кіслатой, шыпіць і выдзяляе бурбалкі. — Гэта прыкмета, што зямля багата натуральным запасам вапны.

Галоўным чынам вапнаваньне патрэбна на сенажацях і выганах, дзе зямля не гарэцца, дзе шмат шкоднага зялеза і кісласьці, а мала паветра. Вапна якраз гэтыя заганы тут усоўвае.

**В. Б.**

# Лушчэньнем павялічваем ураджай.

Азімыя хлябы з поля сабраны; сяляне месцамі прыймацца за здыйя і яравога збожжа. Пасьля доўгай летней галадоўкі на голым сялянскім папару і чорных выганах-пустках сялянская скаціна трохі „адхапліваецца“ на сытнай траўцы па іржышчу. Гаспадыня весялей падходзіць з даёнкой да сваей кароўкі, якая цяпер ня толькі можа наесца, але частку корму ператіварыць у лішку малака.

Трудна ў гэты час аўтару гэтага артыкулу падайсьці да сялян з гутаркай аб выездзе зараз-жа па здыйму з поля хлеба з плугам і навет перш за скацінку. Мало надзеі, што яго будуць слухаць, бо вельмі-ж цэніца на вёсцы гэта паша,

ня гледзячы на тое, што яна нам дорага каштуе і не дае магчымасьці ў наступны год атрымаць з ніўкі поўны ўраджай.

Што гэта паша больна б'е нашага селяніна па кішэні — аб гэтым красамоўна гавораць навуковыя досьледы. Па дадзеным дасьледчага поля Ціміразеўскае с.—г. Акадэміі (у Маскве) ураджай ярыны ад лушчэньня — воркі зараз-жа па жніўю павялічваецца на 36 пуд. з дзесяціны, а карань-клубня—плоды (буракі, рэпа, бульба)на лушчэньне яшчэ лепш рэагуе. Практыкай і шмат лічэбнымі досьледамі даведзена, што поле пасьля лушчэньня дае ўраджай карань-клубня-плодаў больш на 20—30 проц. Гэта знача, калі мы атрымліваем з дзесяціны 1000 пуд. бульбы ці 2000 пуд. буракоў, дык ворка-лушчэньне павялічвае ўраджай на 200—300 пуд. бульбы ці 400-–600 пуд. буракоў.

Што выклікае такое павялічэньне ўраджаю ад лушчэньня?

Калі мы здыймаем хлеб, дык на ніве пакідаем пажніўныя астачы, якія пры іх загорваньні перапраўляюць і падрыхтоўваюцца ў спажыву для наступнага збожжа. Пасьля сябе азімыя хлябы пакідаюць ў гэтых астачах да аднэй дзесяціне — 74 кіл. азоту, 28 кіл. фосфару і 36 кіл. паташу (калія) *). Калі мы цяпер зьвярнёмся да аналізу натуральнага гною, дык убачым, што гэта астача, калі яе разумна скарыстаць, прыблізна роўна 800 пуд. гною.

Лушчэньнем апроч таго, добра змагацца з сарнякамі на нашых палёх, шкоднасьць якіх вядома кожнаму земляробу.

Лушчэньнем ральлі мы зьберагаем вільгаць ў глебе і ствараем лепшыя ўмовы для доступу паветра ў глебу, ў рэзультаце чаго, лепш адбываюцца розныя карысныя для гаспадара процэсы, як фізічныя, хімічныя, гэтак і біолёгічныя, якія пераводзяць спажыву з труднаспажываемай формы для каранькоў расьлінкі ў лёгкаспажываемую.

Лушчэньнем лепш за ўсе воркі мы паляпшаем структуру (будову) глебы. Зямля тут робіцца дробна-груздкаватай, ці як у нас сяляне называюць „сьпелай". Сьпеласьць зямлі — ёсьць галоўная мэта кожнай апрацоўкі зямлі, без чаго нам трудна падняць ўраджайнасьць нашых глебаў.

Лушчэньне робіцца зараз-жа па здыйму хлеба з поля. Чым гэта праца зробіцца раней, тым лепш. Поле арэцца спэцыяльнымі лушчыльнікамі, а калі іх няма, дык можна звычайнымі сялянскімі плугамі. Узоранае плытка (1—1½ вяр. глыбінёй) поле зараз трэба забаранаваць у два сьляды

*) Досьледы Вэйнэра.

і трымаюць ніву ўспульхненай аж да зімовай воркі, якую робяць на поўную глыбіню. Вясной шмат дзе поле не аруць, а пасьля культыватараў прыступаюць да сяўбы.

Вось цяпер, калі мы падумаем, што тая паша па ір жышчы, якой так даражаць нашы сяляне, так шкодна адбіваецца на павялічэньні наступнага ўраджаю, мы яе н будзем так шкадаваць і, ня гледзячы на брак часу, пастараемся знайсьці свабодную мінюту для выезда зараз-жа паздыйму збожжа з плугам.

У. П.

# Змаганьне з сарнякамі.

Сарнякі на полі і гародзе прыносяць гаспадару вялізарную шкоду. Сьмела можна сказаць, што праз сарнякі мы не атрымліваем прыблізна $^1/_3$ часткі ўраджаю. Сарнякі шкодны тым, што яны адбіраюць ад культурнай расьлінкі спажыву, вільгаць і сьвет. Кожны земляроб мусіць зьвярнуць на чыстату сваей нівы пільную увагу і павесці з гэтымі шкоднікамі бязьлітасную вайну, якую вясьці вельмі трудна, бо сарнякі хутка множацца і маюць шмат хітрых прыладаў, пры дапамозе якіх іх заносяць ветры, жывёлы і нават сам гаспадар на новыя месцы.

Маецца шмат радоў сорных расьлін. Некаторыя з іх жывуць толькі адзін год і множацца з насеньня, якое або само высяваецца ў часе жніва, або выкідвае іх на поле сам гаспадар пры сяўбе нячыстага насеннаг матэрыялу. Найбольш шкоднымі з аднагадовых сарнякоў бываюць у ярыне: сьвірэпка, палявая гарчыца і дзікі аўсюк.

Азіміне гэтыя [шкоднікі так не дакучаюць, бо, ўзышоўшы разам з жытам ці пшаніцай, зімой вымярзаюць. У азімых хлебох з сарнякоў, што множацца насеньнем, больш усяго трапляюцца: кукаль, палявы мак і васілка.

Для змаганьня з сарнякамі, што множацца насеньнем, трэба перш-наперш паставіць гаспадару сабе за правіла: ня выносіць іх на поле ў часе сяўбы з гноем. Дзеля гэтага гаспадар у інтарэсах свайго кішэня, мусіць іх акуратна чысьціць. Самымі лепшымі машынамі для чысткі насеньня ад сарнякоў зьяўляюцца трыеры, зьмейкі і млынкі. Гэтыя вельмі карысныя ў гаспадарцы машыны гаспадары на вёсцы мусяць набываць супалкай цэлай вёскай. Страты для вёскі невялікія, а карысьць адчуецца ў першы год.

Атабранае пры чыстцы насеньне сярнякоў ня трэба выкідваць у гной, у сьмецьцё ці скармліваць іх не перакіпячонымі ці не пeffатраўленымі жывёлай. З гноем яны вывозяцца на ніву і будучы яшчэ здольны, нават прайшоўшы страўны ход жывёлы, да прарастаньня, хутка засарваюць ніву.

Калі ніва так ці інакш ужо засорана, трэба павясьці змаганьне з сарнікамі на ніве. Адпаведная апрацоўка ральлі—найлепшы спосаб змаганьня. Ворка на зіму з папярэдней плыткай воркай па жніўю—самая горшая згуба для сарнякоў, што множацца насеньнем. Для гэтага трэба зараз-жа па здыйму збожжа ехаць на поле з плугам і плытка ўзараць. Насеньне сарнякоў хутка прарастае і, калі раля добра ад іх зазелянее — пускаюцца бароны з вострымі зубамі ў сухую пагоду і на сухую ральлю. Ня можна баранаваць мокрае нівы ці ў часе дажджу, бо выбаранаваныя сарнякі хутка ізноў прыжываюць.

Трудней змагацца з тымі сарнякамі што разрастаюцца з каранёў і карнявішчаў. Да такіх шкоднікаў належаць: пырнік, мятліца, хвашчы і іншыя.

Пырнік — галоўны вораг нашых пяшчаных глебаў. Што год ён прыносіць нашым земляробам неаблічальную страту і змаганьне з ім найтруднейшае. Разрастаецца ён карнявішчамі блізу каля самай паверхні зямлі. Найдрабнейшы кавалак пырніку, адрэзаны ад расьлінкі, мае здольнасьць даць жыцьцё самастойнай расьлінцы. Высушаны пырнік пад дзеяньнем сонца па павэрхні зямлі—ня губляе здольнасьці ізноў расьці ў зямлі. Таксама і нашы марозы шкодна не адбіваюцца на жыцьцёдзейнасьці гэтага прыкрага шкодніка нашых лёгкіх грунтаў.

Найлепшым спосабам змаганьня з пырнікам будзе плыткая ворка зараз-жа па жніўю плугам з тупым нажом. Як ральля высахне,—цяжкімі баронамі добра выбараноўваюць пырнік, які з сухой ральлі добра выграбаюць. Гэту работу паўтараюць некалькі раз.

Цяпер у культурных гаспадарках добра выцягваюць пырнік адпаведныя культыватары.

Выцягнуты пырнік, зграбаецца ў кучы, паліцца і попел раскідваецца на ніве. Карысьней было-бы пырнік сабраць для кампостных ям. Кампост добра надаецца для сенажацяў, дзе пырнік, хаця-бы і не страціўшы здольнасьць да жыцьця, ёсьць нястрашны.

На землях, дзе разрастаецца пырнік, добра садзіць бульбу, буракі і іншыя асыпныя культуры. Апрацоўка ральлі і дагляд за гэтымі культурамі адначасна зьяўляюцца і добрымі спосабамі для зьніштажэньня сарнякоў.

Страшным шкоднікам для канюшыны зьяўляецца павіліка, якая вядзе хіжацкае жыцьцё за шчот сокаў канюшыны. Павяліка абматвае тонкімі ніткамі сьцябло канюшыны і высасвае з яе сокі. Доўгія ніткі павялікі сьцелюцца далека за межы заражонага месца, дзеля чаго гэта зараза хутка распаўсюджваецца.

Павяліка заносіцца на поле разам з насеньнем канюшыны. Для гэтага канюшыну ня трэба купляць ад незнаёмых гаспадарак ці са складаў, якія не даюць гваранцыі чыстасьці тавару.

Як зьявіцца ў канюшыне павяліка і гаспадар гэта заўважыць, трэба зараз-жа ня толькі заражоны кусок скасіць, але і суседнюю канюшыну наўкола (2—3 шагі) ахвяраваць для зьнішчэньня. Канюшыну разам з зямлей пасеч, пакрыць саломай і спаліць. Заражонае месца карысна таксама пасыпаць попелам, ад якога павяліка губляецца.

С.

# Павялічэньне корму ў гаспадарцы цераз сіласаваньне.

З усіх куткоў Заходняе Беларусі разносяцца сумныя грозныя весткі аб вострым кармавым пытаньні. Халодная і мокрая вясна, а потым такое-ж самае і лета затрымала рост як палявых культур, таксама і травы, якая шмат дзе на нізінах стаяла увесь вэгэтацыйны пэрыяд пад вадой. Сяляне сьпяшаць збыць лішнюю жывёлу, каб як-небудзь пракарміць астаючуюся, што выклікала раптоўнае паніжэньне цэн на скаціну. Прыходзіцца моцна цяпер жа задумацца над прысканьнем новых кармоў, з якімі гаспадар мог бы сяк так прабіцца гэты трудны для яго год. Прыходзіцца зьвярнуць увагу і на сарнякі, і на ўселякія гаспадарчыя адкіды, на што нашы сяляне заўсёды ня зварачваюць увагі.

У гэтым нарысе я хачу падзяліцца з нашымі чытачамі з лёгкім способам выкарыстоўваньня ўсялякіх адкідаў, як сарнякі на полі, бацьвіньне буракоў, бульбы, лісьцё капусты, загніваючыяся кораня клубнеплоды, лісьцё з дрэў, позьняя атава з лугоў і канюшынішча, розныя асокі і сітнікі і г. д. Способам гэтым будзе **сіласаваньне** *) (квашэньне), пры якім корм захоўваецца ў ямах. Заложаны ў гэтыя квасільныя (сіласныя) ямы, корм бродзіць, робіцца мяккім, атрымлівае прыемны пах і смак і ахвотна паядаецца скатом. Такім чынам, ўсё тое, што топчыцца не разумна гаспадаром пад нагамі і дарма прападае для гаспадаркі, або яшчэ больш засарала-б нашы нівы і гароды, можна гэтым ня толькі ратаваць жывёлу ад голаду, але і падтрымаць яго прадукцыйнасьць.

---

*) Атрутныя травы, як розныя казлы, малачай, чамярыцу, белену, дурман і інш. трэба асьцярагацца класьці ў сілас, хаця шкоднасьць іх там і ня высьветлена.

У ямах гэтыя гаспадарчыя адкіды перахоўваюцца сакавітымі, залёнымі, а якое вялікае значэньне мае зялёны корм для жывёлы ўзімку—паказвае і тое, што самыя лепшыя пароды скаціны на сьвеце вывяліся там, дзе была добрая і сакавітая паша. Каровы, як-бы багата не карміліся сухім кормам у хляве, з выганам на пашу пачынаюць ад зяленай пашы павялічваць удоі. І як дыэтычны корм, зялёная трава грае вялікую ролю, бо ўсе трыбуховыя хвбробы жывёлы бываюць часьцей зімой ад недахопу сакавітай пашы, на якой яна пачынае апраўляцца і выздараўліваць.

Бяручы пад увагу такое вялізарнае значэньне зялёнага корму для жывёлы, трэба нашым сялянам больш зьвярнуць на сіласаваньне ўвагі і ня толькі перад вачыма голаду.

Асабліваe значэньне сіласаваньне корму мае для Беларусі, дзе вільготны клімат дазваляе вырашчваць буйныя зялёныя расьліны, але часта трапляецца, што за дажджамі немагчыма высушыць і прыгатовіць добрае сена. Буйная зялёная расьлінная маса будзе—найлепшым матэрыялам для сіласу.

Месца для квасільных ям выбіраецца высокае і сухое, з глінястым грунтам, дзе ямы могуць быць выкапаны без умацаваньня сьцен. У праціўным выпадку сьцены ям трэба ўмацаваць цэгламі, ці каменьнямі на вапне, цэменце (астатнее лепш). Ямы, зробленыя для часу, абкладваюцца дошкамі, або абмазваюцца вязкай глінай, якая апаліваецца. Калі гліна добра прасохла, дык ў апальваньні няма патрэбнасьці.

Форма ямы лепш за ўсё надаецца для сіласу круглая ці прамавугальная. Глыбіня павінна быць каля 3 арш. Менш 2-х аршын ямы рабіць нельга, бо корм можа хутка псавацца. Шырыня залежыць ад таго, каб корм што дня вынімаўся на ўсю шырыню і глыбіню, бо ад дзеяньня паветра на сілас, якасьць яго паніжаецца. Пры вылічэньні даўжыні ямы трэба браць пад увагу колькасьць сіласу. Ведаючы, што 1 куб. саж. гатовага сіласу важыць каля 400 пуд. і вагу корму для закладкі ў сілас, можна вымеркаваць і даўжыню ямы.

Калі ямы ўжо прыгатоўлены, дык закладаць корм туды можна ня больш, яку працягу 3-х дзён у кожную яму, бо ў праціўным разе корм можа сільна сагрэцца і папсавацца. Матэрыял для закладкі павінен быць **сьвежым ці чуць-чуць правяленым**. Маса для закладкі пажадана аднастайная. Гэтага можна дасягнуць перамешваньнем корму, дзеля чаго ўкладваецца корм у ямы паслойна, ці дробна (чым драбней-тым лепш) сячэцца і потым рэзкай перамешваецца перад закладкай у ямы.

Закладка корму ў ямы робіцца ў наступны спосаб: парэзаны корм укладаецца на ўсю яму таўшчынёй каля 4 вярш. і ўтаптываецца нагамі, а каля вуглоў — абрубкам дрэва. Потым, як добра ўтопчыцца, корм соліцца (на 1 куб. саж. ямы каля 1-2 пуд. солі), па вуглох і каля сьцен больш, а на сярэдзіне слабей. Соль мае тут вялікае значэньне, бо салены корм лепш перахоўваецца і ахвотна паедаецца жывёлай. За першым слоем накладаецца другі і так да самага верху, кожны слой салячы і ўтрамбоўваючы. Сілас накладваецца вышэй краёў ямы на $1^1/_2$ арш. дзеля таго, каб ападаючы пад уласным цяжарам і націскам зямлі, ён з часам зраўняўся з краямі ямы. Калі корм для закладкі сухі, дык яго можна паліць вадой. Дождж, (нераптоўны) пры працы ня шкодзіць.

Як корм у ямы ўложаны, яго націскаюць зямлёй да $1^1/_2$ арш. Агульнае тут правіла: чым гэты слой націску вышэй, тым лепшы ўдаецца сілас. Перад засыпкай зямлёй корм абкладваецца саломай і ў першы дзень націскаецца глінай да $^1/_2$ арш. Потым кожны наступны дзень ускідваецца такі-жа самы слой, толькі астатні пажадана насыпаць лёгкай зямлі (пяском). Калі тут прадбачыцца небясьпека ад марозу, дык можна зямлю аблажыць гноем. Тут засьцерагаю гаспадароў ня класьці замест саломы дошак, што часта раіцца ў сельска-гаспадарчых кнігах, бо пад дошкамі зьяўляюцца пустоты, запоўненыя паветрам, ад якога сілас хутка псуецца.

Далейшы дагляд за ямой заключаецца ў адводзе ад яе дажджавой вады, сачэньнем за трэшчынамі ў пакрышцы, якія кожны раз трэба старанна забіваць зямлёй і ўтаптываць, памятаючы, што цераз трэшчыны можа дабрацца да сіласа паветра, якое можа папсаваць усю працу.

Калі гаспадар акуратна выканае ўсё вышэй сказанае, дык сілас можа быць гатовы да ўжытку цераз 2—3 месяца і перахоўвацца 6—7 месяцаў.

Пры дачы сіласу скату, яму трэба ўскрываць столькі, сколькі можна вынуць сіласу, асьцерагаючыся, каб паветра не заходзіла да рэшты корму.

Сілас ахвотна паядаецца ўсімі хатнімі жывёламі. Прывучаць да яго скаціну трэба паволі, каб ня выклікаць недамаганьняў у страўленьні жывёлы. Больш 20 ф. на дзень даваць не рэкамэндуецца. Добра сілас паядаецца разам з саломеннай сечкай.

Агульніваючы ўсе сказанае, трэба яшчэ раз падкрэсьліць, што ўдачны сілас атрымліваецца тады, калі гаспадар зьвярне пільную ўвагу на тры запатрабаваньні сіласу: 1) абсалютна ня працякаючая яма; 2) самае шчыльнае ўтрамбоўваньне дробна парэзанай сьвежай масы і 3) поўнае

ізаляваньне сіласу ад надворнага паветра. Калі гэтыя ўмовы выкананы, дык надворны тлен не выклікае загніваньня, тэмпэратура не падымаецца высока і страта спажыўной матэрыі бывае мінімальная. Сілас пры гэтых умовах бывае заўсёды добры.

**У. П.**

# Кармавыя сурагаты.

Кармавое пытаньне ў нас, асабліва ў няўраджайныя годы, стаіць так востра, што гаспадары прымушаны марыць голадам сваю скаціну ў працягу цэлае зімы. Бываюць вясной такія выпадкі, калі сяляне лезуць на дах і зьдзіраюць са стрэх старую гнілую салому, чым і кормяць сваю скаціну. Аб запасе корму на зіму гаспадар мусіць паруніцца з восені і навет яшчэ раней. Для гэтай мэты трэба скарыстаць ня толькі гаспадарчыя адбросы, але навет і кармавыя сурагаты, якія часта і шмат дзе валяюцца на зямлі, не зварачваючы ўвагі на сябе нашых гаспадароў.

**Сурагатамі** называюць такія кормы, якія самі па сабе ня могуць забясьпечыць прадукцыйнасьць жывёлы і служыць адны добрым кормам скаціне. Пры няўмелым кармленьні, ды яшчэ аднымі сурагатамі, можна прынясьці шкоду жывёле.

Але шмат ёсьць сурагатаў, якія добра надаюцца для карменьня жывёлы ў сумязі з іншымі кармамі, чым гаспадар можа дасягнуць эканоміі ў запасе корму і часта ўхіліць кармавы крызіс вясной.

Добрымі кармавымі сурагатамі зьяўляюцца жалуды і каштаны, якія шмат дзе валяюцца безкарысна пад дрэвамі ў садку і лесе. Жалуды маюць шмат спажываемых (безазотных экстрактыўных) матэрый. Жалуды ахвотна паядаюцца сьвіньнямі, для якіх гэтыя сурагаты прызнаюцца добрым і адкармліваючым сродкам. Сала ад жалудоў атрымліваецца прыемным на смак, зярністым, тугой консыстэнцыі і доўга перахоўваецца.

Скармліваюць жалуды сьвіньням у сумязі з кухонымі адкідамі, гарохам, бульбай, мукой і іншымі кармамі. Даваць свіньям у дзень можна ад 2-х да 5 ф. на штуку. Можна ўжываць жалуды сырымі, але лепш іх высушыць, зьняць шалупіну і змалоць. Авечкі таксама добра пераатраўліваюць жалуды. Даюць ім жалуды абавязкова высушанымі і пераменленымі ў сумязі з сенам ці саломай. Буйнаму скату, як каровам і коням трэба даваць жалуды асьцярожна, бо ад іх часта ў кароў, коней зьяўляюцца хваробы кішэчніка, запоры і інш., а цяжарныя жывёлы могуць скідваць.

Дача ім жалудоў мусіць быць самая малая: коням да 4 ф., а рагатаму скату ня звыш 5—6 ф. у дзень на штуку і абавязкова ў паджарыным відзе.

Ужываньне ў корм каштаноў лічыцца больш бязшкодным, дзякуючы меншай колькасьці дубільнага квасу. Ужываюцца для ўсіх жывёлін, а асабліва авечкам, якія іх ахвотна паядаюць. Даюць авечкам у сумязі з іншымі кармамі—2—3 ф. у дзень на штуку. Малочнаму скату—ад 5 да 10 ф. разам з сечкай. Коні каштаны паядаюць неахвотна.

Мяса і сала сьвіней ад каштаноў атрымліваюцца прыемным на від і смак, а малако ад кароў—густое.

**В.**

# Колькі можна атрымаць малака ад сялянскае каровы.

На Беларусі, заходняй яе частцы, распаўсюджана рагатае малочнае быдла, якое дасьледавацелямі адносіцца да групы Чырвонага Заходня-Славянскага быдла, ці інакш, яно завецца Чырвоным караткарогім быдлам.

На усходзе Беларусі распаўсюджаны групы расейскага быдла. Каровы гэтых груп мала адрозьніваюцца адна ад другой, асабліва па сваім гаспадарчым якасьцям.

Рагатае быдла на Беларусі досыць даўно пачало паляпшацца скрыжваньнем кароў з быкамі чужаземных парод, чаму амаль на ўсіх раёнах, можна знайсьці вялікі процант мясцовых кароў, маючых у себе кроў тае ці іншае чужаземнае пароды. Гэта мэтызыраванае быдла можна называць беларускім, бо яно з даўняга часу вядзецца на Беларусі і прывыкла да мясцовых умоў утрыманьня. Скрыжаваньне паляпшала масцовы скот, але ад кепскага кармленьня і ўтрыманьня палепшаныя каровы не выяўлялі свёй здольнасьці да вялікае малочнае прадукцыйнасьці.

Каб даведацца—наколькі мясцовае беларускае быдла, палепшанае скрыжаваньнем з быкамі чужаземнае пароды, дае больш малака, чым непалепшанае, на Вучэбнай фэрме Беларускай С.-Г. Акадэміі ў 1926 і 1927 гадох вяліся досьледы па кармленьню і ўтрыманьню розных мясцовых кароў Гарэцкага раёну.

Гэтыя каровы былі куплены на рынку ў сялян і ў бліжэйшых мясцовых гаспадароў. Больш танна, 50—60 р., былі куплены мясцовыя каровы, на якіх незаўважана прыліцьцё крыві паляпшаючай пароды. Жывая вага гэтых кароў была 17—19 пудоў. Каровы, ў якіх можна было дапусьціць

прыліцьцё крві чужаземных парод, былі жывою вагою ў 20—24 пуды, плаціліся за іх 80—100 рублёў. Мэтысныя каровы, меўшыя большаю часткаю ясна замечаную дамешку крыві шгіцкае ці ангельскае пароды, былі жывою вагою ў 24—26 пудоў і за іх плацілася 125—160 і, нават, 200 руб. за галаву.

У 1926 годзе былі на дасьледаваньні поўнасьцю целы год—37 кароў, а ў 1927 г.—23 каровы.

Можна заўвыжыць, што ў беларускіх непалепшаных кароў ад багатага кармленьня удоі атрымаліся нават у 1926 г. ў два разы большыя, чым ад такіх-жа кароў у сялянскіх гаспадарках, пры ўмовах сялянскага ўтрыманьня і кармленьня. Трэба пры гэтым сказаць, што каровы былі куплены худымі і іх прышлося падпраўляць. Ад лепшага кармленьня амаль ўсе каровы прыбавіліся ў вазе на 35—70 кілёграмаў.

Праз тое, што каровы былі ў пачатку досьледу ў 1926 годзе худыя, мы можам лічыць ўдойлівасьць кароў і іншыя вынікі, атрыманыя ад кармленьня ў першым годзе дасьледаваньня, рашаючымі. 1926 год дасьледаваньня быў толькі падрыхтоўчым. Поўную малочную прадукцыйнасьць карова можа паказаць толькі тады, калі яна досыць сытая, калі ў пэрыяд сухастою, тэрмін якога ня менш 2-х месяцаў, карова багата карміласяя.

Гэтыя ўмовы былі намі захаваны ў першым годзе дасьледаваньня. У другім-жа, 1927 годзе мы можам лічыць досьлед досыць падрыхтаваным для атрыманьня рашаючых вынікаў, хаця для праверкі гэтых вынікаў досьледы будуць весьціся і ў 1928 г. (Трэба адзначыць, што досьледы вядуцца ў гаспадарчых умовах, а не ў лябараторна-вопытных).

Кармленьне кароў у 1927 годзе было такое-ж самае, як і ў 1926-м, але за год скормлена большая колькасьць корму, чым у 1926 годзе таму, што каровы павялічылі сваю ўдойлівасьць у сярэднім на 40 проц. Між тым бялковы стасунак у кармовых рацыёнах застаўся ранейшы 1 : 5, г. з., што на 1 частку пeратраўліваемых бялкоў у корме было 5 частак безазоцістых матар'ялаў.

Мясцовыя, непалепшаныя каровы прыбавілі малака ў сярэднім ня болей як на 20 проц., затое каровы, у якіх ясна відаць прыліцьцё крыві чужаземных парод, павялічылі ўдойлівасьць на 38—70 проц.

Мясцовыя каровы далі ў сяреднім 2,300 кілёграмаў малака (180 вёдзер), каровы-ж палепшаныя далі ў сярэднім — 3,300 кілёграмаў (260 вёдзер) малака.

Каб выявіць эканамічную выгаднасьць утрыманьня кароў, мы зробім падлік, які прыбытак даюць ў нас каровы.

Прыводзім невялічкую табліцу гэтых падлікаў для кароў больш ўдойлівых і менш удойлівых. Выдатак па ўтрыманьню каровы мы падзелім на дзьве часткі: адна частка — кошт корму — будзе розная для кожнае асобнае каровы, таму што карова зьядала ў год розную колькасьць кармоў, другая-ж частка — гэта выдаткі па дагляду за кароваю, па аплаце памяшканьня, асьвятленьня, лячэньня, па ўтрыманьню адміністрацыі і інш. Гэтая апошняя частка па нашым арганізацыйным падлікам раўняецца 115 руб. на кожную карову і будзе для ўсіх кароў аднолькавай; мы яе ў табліцы ня зьмешчаем, таму што ў селяніна гэтыя выдаткі будуць нязначныя.

Сабекаштоўнасьць аднаго кілёграма малака ў нас раўняецца, па арганізацыйнаму разьліку, пры сярэднім удоі 2,300 кгр. ад каровы — 11 кап. і ў сярэднім за год, па такой цане ў нас прадаецца малако. Гета значыць, у нас карова, якая дае ў год 2,300 кгр. малака, ня дасьць ні прыбытку, ні страты. У селяніна ж, можна лічыць, яна дасьць 115 руб. прыбытку.

Арганізацыйныя цэны кармоў у нас прыняты такія: за 1 кгр.: сена канюшыннае — 25 кап., палова аўсяна-пшанічная — 1 кап,, яравая салома — 1 кап., кармовыя буракі і турнэпс — 0,7 кап., бульба дробная — 1,3 кап., пшанічныя высеўкі — 6 кап., субарная мука — 8 кап., макуха канапляная — 6 кап., макуха ільляная — 7 кап, кошаная сеяная трава — 0,5 кап., пасьцьбішная трава — 0,4 кап.

| №№ | Назва каровы | Гады | Кошт корму | | Атрымана малака кілёгр. | Кошт корму | | Прыбытак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Руб. | Кап. | | Руб. | Кап. | Руб. | Кап. |
| 1. | Эля | 1926 | 109 | 39 | 2172 | 238 | 92 | 129 | 56 |
| | | 1927 | 144 | 38 | 2740 | 301 | 40 | 157 | 02 |
| 2. | Надзея | 1926 | 134 | 89 | 2062 | 226 | 82 | 91 | 93 |
| | | 1927 | 165 | 17 | 3159 | 347 | 49 | 182 | 32 |
| 3. | Хвіліна | 1926 | 162 | 20 | 3495 | 374 | 45 | 212 | 25 |
| | | 1927 | 205 | 15 | 4324 | 475 | 74 | 270 | 59 |
| 4. | Тулія | 1926 | 155 | 46 | 2639 | 290 | 29 | 134 | 83 |
| | | 1927 | 214 | 84 | 4500 | 495 | 10 | 280 | 29 |

Лічбы паказваюць, што пры значна большым выдатку на корм, каровы ў 1927 годзе ўсё-ж далі большы чысты прыбытак, чым ў 1926 годзе.

З табліцы відаць, што з павялічэньнем ўдойлівасьці каровы, павялічваецца ад яе і чысты прыбытак. Удой-

лівасьць-жа каровы павялічваецца ад багатага кармленьня. Відавочна, ёсьць пэўны сэнс карміць кароў багата.

Сяляне Горацкага раёну могуць атрымаць ад сваіх кароў зараз-жа, бяз усялякага палепшаньня скаціны, ня 80 вёдзер у год малака ад каровы, як гэта бывае ў большасьці выпадкаў цяпер, а 157 вёдзер. Для гэтага трэба толькі лепш карміць кароў. Але, дзякуючы таму, што ў шмат якіх сялян ёсьць каровы палепшаныя прылівам крыві ад быкоў замежнае пароды, дык ад гэтых кароў яны маглі-б мець ў год малака ня менш 3,000 кгр. (240 вёдзер), каб яны кармілі сваіх кароў так, як яны кормяцца ў нас.

Ці было-б гэта выгадна сялянам?

Бясспрэчна, што так. Перш за ўсё, тыя 115 р. выдатку, якія ў нас ідуць на карову ў выглядзе платы: за рабочую сілу, адміністрацыі, утрыманьне канторы і інш., засталіся-б у кішэні сялянства. Апрача таго, у сялянства застаўся-б чысты прыбытак ад каровы і яшчэ добрая плата за сена, салому, мякіну, дробную бульбу і г. д Уся справа пры гэтым ва ўмелым кармленьні кароў і ў наліччы патрэбных запасаў кармоў. Больш цёплы кароўнік, які патрэбен для добрага ўтрыманьня кароў, кожны сялянін сам можа абсталяваць.

Але як дастаць жмыхаў, вотрубяў, як прадаць больш выгадна малако? Адказ павінен быць вядому кожнаму селяніну. Усё гэта магчыма зрабіць праз каапэрацыю. Жмыхі і вотрубі можна атрымаць ў крэдыт ў каапэрацыі і малаком аплаціць узяты крэдыт. Усе ўмовы для выгаднейшага ўтрыманьня кароў цяпер ужо маюцца ў наліччы. Трэба толькі з'арганізавацца і ўпарта дабівацца паляпшэньня сваёй малочнай жывёлагадоўлі праз каапэрацыю. Калі каапэрацыя дрэнная, дык і яе трэба палепшыць.

Нашы досьледы па ўтрыманьню мясцовых кароў Горацкага раёну добра было-б праверыць і падцьвердзіць другімі досьледамі і у другіх раёнах. Гаспадарчы вопыт, які мы правялі, патрабуе толькі акуратнага ўзьвешаньня корму і малака.

**Дацэнт Т. Паўлаў.**

# Гадоўля ліна і карася ў стауках.

Шмат гаспадарак у нас на Беларусі маюць натуральныя стаўкі, у якіх вада стаіць праз ўвесь год. Стаўкі гэтыя сгаяць бяз ужытку і бяз карысьці для гаспадаркі. Між тым гэтыя натуральныя невялікія вадазборышчы часта можна скарыстаць для гадоўлі рыбы. Некаторыя спэцыялісты-рыба-

воды раздзяць гэтыя сгаўкі засяляць лінам і карасём. Проф. В. Кульматыцькі ў брашуры „Гадоўля рыбы ў малых вадазборышчах“ піша:

„Стаўкі са стаячай вадой добра надаюцца для карпаў, але калі даюцца вылаўліваць сеткамі. Калі-ж гэта бывае трудна па прычыне значнай глыбіні стаўка, ці яго няроўнасьці дна, на якім ляжаць вялікія камяні ці пні, тады лепш гэтыя стаўкі засяляць лінамі і карасямі.

Лін жывіцца тым самым кормам, што і карп; розьніца бывае ў тым, што лін шукае сабе спажывы больш на дне, а карп больш на паверхні. Такія стаўкі найлепей засяляць трохгадовымі лінамі. Лін ловіцца лёгка і жыруець не грамадкамі, як карп, а па аднаму.

Па аднаразовым засяленьні стаўка трохгадовым лінам, трэба спадзявацца, што лін там будзе множыцца пастаяна.

Трэба тут зьвярнуць увагу на адну біолёгічную асаблівасьць ліна, на так званы „летарг летні“, маючы вялізнае значэньне пры гадоўлі ліна ў стаячых вясковых стаўках. Лін у часе летавах упалаў, пры высыханьні стаячых стаўкоў, падпадае ў асобага роду сон, калі ён зьмяньшае дыханьне. Гэта характэрная ліну асаблівасьць дае яму магчымасьць лёгка пераносіць летнія ўпалы і высыханьне вады ў стаўках.

У такіх стаўках можна побач з лінам гадаваць і карасі, хаця даходнасьць ацошніх стаіць ніжнэй чым ад ліна, але за тое даходнасьць ад карася бывае шмат большая, чым ад хіжацкіх рыб, як шчупак і іншыя.

**Карась** ёсьць рыба не вымагаючая дужа клопатаў з боку гаспадара. Падобна ліну, гадзіцца ў стаячай вадзе—дзе часам бывае малавата чыстага паветра. У крытычных момантах лёгка занурваецца на дно балоцістага стаўка і там можа знаходзіцца доўгі час упалаў.

Карась добра выгадаваны, падобна карпу дае мяса галоўным чынам на храбту. Ня ёсьць вельмі плодным (самка складае каля 25,000 зярнятак ікры), але маладое патомства упорчыва змагаецца з усялякімі вонкавымі ўплывамі, дзеля чаго дужа рыбак карася выжываюць. Гэта жывучасьць карася служыць прычынай перасяленьня стаўка, што паніжае яго даходнасьць. Каб гэту небясьпеку ўсунуць, трэба пры лоўлі рыбы ў стаўку, вылаўліваць і дробную рыбку і ўпускаць назад толькі карасёў велічынёй ня менш далоні. Такая рыбка ўжо ў наступны год здольна ісьці як тавар.

Для мэты зьнішчэньня церазмеру расплодзіўшагася карася, ўпускаюць акунёў, якія паядаюць маленькіх рыбак карася і гэтым самым ўсуваецца небясьпека перасяленнасьці стаўка.

Шчупак для гэтай мэты не надаецца, бо ў хуткім часе ён пачынае нападаць ня толькі на дробную рыбку, але пажырае карасёў, якія ўжо вырасьлі і маюць сталовую вартасьць.

Лоўля карася адбываецца ўсялякімі спосабамі ў працягу ўсяго году.

# Аб натуральным залужаньні балот.

Існуе погляд, што каб перарабіць балота на луг, дык тут ніяк не абыйсьціся бяз штучнага залужаньня, інакш кажучы, трэба рабіць адпаведную мешаніну з лугавых траў і высяваць яе на балоце. У некаторых умовах гэта, бязумоўна, правільны погляд, але бываюць і іншыя выпадкі. Нашы балоты вельмі разнастайныя па сваім натуральным асаблівасьцям. З іх — тып нізіных (лугавых) балот выдзяляецца сваім захаваным (потэнцыяльным) багацьцем. Багацьцё гэта выяўляецца, дзякуючы асабліваму палажэньню ў запасе некаторых попелавых элемэнтаў, якія спажываюцца расьлінамі. Гэта захаваная маса можа стаць вельмі карыстнай, пад некаторым уплывам паветра-вадзянога рэжыму на тарпянік.

У артыкуле „Природа мелиорируемых земель и очередных работ“, прыводзіцца шэраг апісаньняў розных балот. Гэтыя апісаньні сьведчаць з аднаго боку, аб натуры розных балот, а з другога, аб гаспадарчай каштоўнасьці іх. Пры гэтым можна заўважыць, што часта вельмі простыя работы па мэліорацыі, як напрыклад, расчыстка і няпоўная асушка (ваадводныя канавы), дапамагаюць утварэньню на балотах нізіннага (лугавога) тыпу, — натуральнага, каштоўнага па свайму складу і кармовай якасьці травастою. На балоце пачынаюць расьці такія лугавыя травы як мятліца (P. pratensis і P. palustris), палявіца (Agrostis alba) і аўсяніца (Festuca rnbra).

Процант гэтых траў у такім травастоі залежыць ад розных прычын: уплыў мае і тое, колькі год існуе дзярніна, і рэжым грунтовых вод, і спосабы скарыстаньня балотных сенажацей, напрыклад, пад часовыя выганы.

Прыклады, якія падкрэсьліваюць, што зтоўчанае, нікуды нявартае, куп'ем пакрытае балота магчыма перарабіць у балотную сенажаць. На гэтым балоце, пасьля зьнішчэньня куп'я пры наліччы аднае (галоўнае) канавы, магчыма стала сабраць у некаторых мясцох у адзін укос да 200 п. сена. Гэта адзін з прыкладаў, які сьведчыць аб значэньні экстэнсыўных спосабаў палепшаньня балот. У асабістых умовах гэтыя спо-

сабы набываюць вялікае значэньне, з прычыны таго, што патрабуюць мінімальных сродкаў на асушку і наступную культуру. Разам з гэтым, павялічваючы колькасьць кармоў, задавальняюць, такім чынам, першачарговую патрэбу сельскага насельніцтва. Такое становішча вымагае зьвярнуць больш ўвагі на гэтае пытаньне і пачаць дакладнае вывучэньне балотнае гаспадаркі. У гэтым напрамку выяўляюць: 1) каштоўнасьць спосабаў павярхоўнага палепшаньня балот: і 2) ролю ўгнаеньняў і часу прыборкі на якасьць і колькасьць сабранага на балоце сена. Але гэтым тэма не абмяжоўваецца. Трэба ставіць досьледы над цэлым шэрагам, як паасобных так і камбінаваных спосабаў культуры балота і рабіць іх на працягу некалькіх год.

У балотнай гаспадарцы наглядаецца цікавае здарэньне натуральнага залужаньня балот. Яно выяўляецца ў тым, што пасьля азімых, а ў некаторых выпадках і пасьля выкааўсянай мешаніны і аўса, асабліва, калі гэтыя расьліны засяваюцца ў 2-гі і 3-ці год культуры балота, пачынае з восені (пасьля прыборкі) разрастацца падрад шчытная дзярніна. Роўная з вясны зелянь пачынае хутка адрастаць. У склад траў яе ўваходзяць: зязюлін цьвет (Lyhuis flos cuculi) і збожавыя: палявіца (Agrostis alba і A. Canina) і мятліца (Poa prat.). Такі травастой, дзе прымешана шмат разнатраў'я як напр.: казяльцу (Ranunculus repens і R. Flammula), незабудак (Miośotis palustris), маруны (Galium aparine) і іншых, выкарыстае бяз усякага пасеву, пасьля пераворкі тарпяніку і скарыстаньня яго пад культуры палявога кліну. Ад часу прыборкі залежыць колькасьць сена. Прытрымліваючыся некаторых правілаў, можна атрымаць у адзін укос ад 180 да 230 п. сена, у якім проц. збожжавых (палявіцы, мятліцы і аўсяніцы) хістаецца ад 50 да 75. У некаторых выпадках, калі пануюць збожжавыя (мятліца), пасься ўнясеньня ўгнаеньня магчыма зьняць другі ўкос.

Здарэньні натуральнага залужаньня наглядаліся на розных вучастках у 1924, 25, 27 г. г., а спэцыяльна пакінуты ў 1927 г. вучастак (№ 5). дае штогодна два ўкосы. У прошлым, 1927 годзе, на чацьвёрты год карыстаньня, з яго сабралі ў два ўкосы, у пераводзе на гэкт, да 50 двайных цэнтн. (330 п. на дзес.). Склад сена: 64 проц. збожжаны і 36% разнатраў'я. Адзначанае натуральнае залужаньне мае моц у працягу некалькіх год і пры калійным у гнаеньні дзе заўсё дыдобрыя ўраджаі. Яны вельмі характэрны для Забалацкага тарпяніка, які зьяўляецца вельмі багатым на сваім прыродным асаблівасьцямі, хаця водны рэжым яго вельмі не ўрэгуліраваны.

Цяпер робіцца зразумелай карысьць павярхоўных спосабаў палепшаньня, бо яны не патрабуюць вялікіх страт, а

між тым мяняюць некарысныя балотныя травы, якія там растуць, на карысныя кармавыя расьліны.

Падкрэсьліваю, што гэта не агульнае правіла, але на ўмовах некаторых масываў (Лукаўскі), яно можа быць прыстасавана. Такім чынам, можа сказаць што:

1. разнастайнасьць відаў нашых балот, вымагае, пры вядзеньні працы па асушцы, у кожным паасобным выпадку розных спосабаў, у залежнасьці ад натуральна-гістарычных умоў.

2. распаўсюджаны ў нас тып нізіных балот, вельмі часта ў выніку прасьцейшых мэліорацэйных палепшаньняў, як, напрыклад, няпоўная асушка дае добрыя сенажаці і, такім чынам, падкрэсьлівае мэтазгоднасьць экстэнсыўных спосабаў культуры балот.

3. Эфект павярхоўнага палепшэньня і моманты натуральнага залужаньня падкрэсьліваюць, што трэба зьвярнуць увагу і высьвятліць гэтыя зьявішчы ў мясцовых умовах, бо калі звараčваць увагу толькі на інтэнсыўныя формы культуры балот, то справа можа аказацца аднабокай, а часам і непрактычнай.

**А. Шохар.**

„Плуг“ № 6 1928 г.

# Як абмаладзіць старыя сады на вёсцы.

Кліматычныя і глебавыя ўмовы на Беларусі спрыяюць разьвядзеньню садоў. Есьць шмат куткоў на нашай Бацькаўшчыне, дзе вёскі „тонуць“ у садох. Гэта сьведчыць, што нашы бацькі і дзяды любілі пладовае дрэва каля дому і стараліся засадзіць садок хаця для сваёй патрэбы.

Але ня маючы навет элемэнтарных знаньняў аб жыцьці пладовага дрэва, садзілі іх няўмела, няўмелі належна за садком даглядаць і вынікам усяго гэтага, як мы цяпер бачым, ёсьць тое, што нашы сады шмат дзе служаць у гаспадарцы толькі для дэкаратыўных мэтаў, ахарашваючы малюнак нашае вёскі. Між тым садаводства ў нас магло-б прынесьці і матэрыяльную карысьць гаспадарцы, каб нашы гаспадары больш рупіліся за іх даглядам і пастараліся ўсунуць тыя заганы нашых садоў, якія стаяць на перашкодзе іх даходнасьці.

Першаю заганаю вясковых садоў трэба лічыць неразмерную іх гушчыню. Цераз 15—20 гадоў дрэвы ў садку так разрастаюцца, што яны сваімі галінкамі і карэньнямі пераплятаюцца і, змагаючыся за спажыву, дрэвы глушаць адно другое.

Другою заганаю нашых вясковых садоў—няўмелы дагляд за садамі. Дрэвы патрабуюць дагляду, як і ўсе культурныя расьліны ў гаспадарцы. Даючы штогод ці цераз год плады, сады бяз угнаеньня хутка трацяць здольнасьць пладанасіць, дрэвы абязьсільваюцца.

На абязьсільваньне дрэва паказваюць наступныя прыкметы: няма штогадовага прыросту з самымі жыцьцёвымі галінкамі. У густа пасаджаным садку гэтыя галінкі зьяўляюцца на самых вярхушках дрэва, дзе ў нормальных умовах росту дрэва мусяць расьці раставыя галінкі; лісьцё і плады год-у-год драбнеюць і ствол дрэва, а роўна і старэйшыя галінкі пакрываюцца мохам. У часе поўнага абязьсільваньня дрэва, на ім пачынаюць адміраць пладовыя галінкі і органы.

Нешта падобнае можна назіраць і на маладым дрэвэ і пры рэдкай пасадцы, калі дрэва ня мае належнага дагляду ці пасаджана глыбока.

Каб абмаладзіць стары садок на вёсцы і прымусіць яго даваць плады, тут трэба палажыць шмат працы, трэба правясьці радыкальнае палепшаньне ўмоў для росту дрэва і яго пладанашэньня.

У садох, дзе гушчыня дрэў перашкаджае ім нармальна разьвівацца, трэба ў першую чаргу сад парадзіць, дзеля чаго выкарчоўваюць дрэнныя сарты дрэў, мала ўраджайныя, з хворымі штамбамі, дрэвы з дупламі і г. д.

Калі гэта праца праведзена, трэба зьвярнуць увагу на дрэвы, застаўшыяся расьці. Каб захаваць старэючаеся дрэва для пладанашэньня, трэба карону яго абмаладзіць, гэта значыць—абнавіць дравесны організм. Абмалажваюць дрэвы толькі здаровыя, ня маючыя дупла. Сама опэрацыя абмаладжваньня дрэва складаецца з удаленьня $^1/_3$ або $^1/_2$ галінак дрэва. Пры гэтай абрэзцы галінак глядзяць, каб ніжэй зрэза на пяньку знаходзіліся жывыя вочкі, з якіх будзе разьвівацца будучая крона. Іншы раз на сільна абрэзаных галінках зьяўляюцца паросты са сьпяшчых вочак, але нам на гэта лічыць ня трэба і дзеля гэтага ня варта абрэзваць галінку з голым бяз вочка пяньком.

Пасьля абрэзкі ў першае лета, калі дрэва абрэзваецца вясной, раны пакідаюцца не замазанымі, бо ў гэты час трудна ўзнаць месца зьяўленьня новага прыросту, больш прыгодных для фарміраваньня маладой кароны. Увосень можна абрэзваць ізноў і раны замазваюць садовай мазьзю.

Гэта опэрацыя выклікае шыбкі рост новых галінак, якія цераз 3—4 гады ствараюць маладую здаровую карону, даюшчую замест дробных, ня прыгожых пладоў — добраякастныя фрукты, якія могуць добра ісьці і на рынак.

Лепшым часам для абмалажваньня дрэва, практыкі-садаводы лічаць раньнюю восень, зараз пасьля зъйму пладоў. Гэта зразумела і з тэоратычнага пункту гледжаньня. Пры абрэзцы галінак позна увосень, ці вясной мы адбіраем у дрэва шмат отложанай у гэтых галінках спажывы, якая пачынаецца адкладвацца тут яшчэ рана увосень. Параненае дрэва позна увосень—пасьля верасьня м-ца, трудна пераносіць халодную, марозную зіму, ад чаго дрэва часта гіне.

Дзякуючы опэрацыі з удаленьнем лішніх галінак дрэва, апошняя абмаладжваецца, набіраецца сілы для пладанашэньня і век жыцьця дрэва павялічваецца на 15—20 гадоў.

Каб абмалоджанае дрэва ня мела недахопу ў спажыве, карысна глебу пад дрэвам угноіць.

**Садавод.**

---

# Як зрабіць жывую абгародку.

Нашы сады і гароды, як вядома, патрабуюць абароны ад жывёлы, халодных паўночночных і паўночна-усходніх вятроў. У гарадох яны звычайна абстронены дашчатаю абгародкаю, у вёсках-жа частаколам, кольлем.

Такія платы абходзяцца гаспадару дорага. Вось жывая абгародка і не каштоўна, і моцная, і прыгожая. Але жывыя платы яшчэ і да гэтага часу мала дзе ёсьць у нашых селян. Насадзіць жыввога дрэва — праца ня хітрая; трэба толькі падабраць расьліны, бо ня кожнае дрэва падыходзіць да гэтай мэты. Для пасадкі жывога плоту ў нас больш прыгодны ёлка, **жоўтая акацыя, звычайны бэз і баярышнік** (кратэгуз).

Елка зьяўляецца самай распаўсюджанай і адной з лепшых парод дрэў. Яна ўдаецца на ўсякай глебе, але лепш расьце на глінісгай, сярэдняй вільгаці. Елка робіць вельмі густую, непрахадзімую, жывую абгародку. Закладаюць жывы плот з восеньні. Капаюць кругом канаўку ў 1½ арш. шырынёю і вярш. 10 глыбіні, робячы невялікія схілы па баках, і зямлю з канавы выкідаюць у бок абгароджанага месца. Але гэта можна зрабіць і вясною, як толькі адтане зямля. У пачатку траўня, як на ёлках пакажуцца маладзенькія сьветла-зялёныя голачкі, робіцца пасадка жывой абгародкі. Садзяць ёлкі ў канаўцы радком адна ад аднэй на поўаршына. Для гэтага трэба браць малядзенькія 4-х гадовыя ёлачкі, іх можна капаць каля лесу, з добрымі бакавымі сукамі. Праца па выкопваньню ёлак вельмі цікавая. Рыдлёўкі амаль што ня трэба, а ўзяўшы за ствол ніжэй сучкоў

можна вырваць рукамі. Галоўны корань у ёлкі слабы, бакавыя сьцелюцца на паверні зямлі і вясною, калі глеба вільготная, ёлка лёгка вырываецца з усімі сваімі каранямі. Карэньні ў ёлкі бываюць вельмі доўгія, пры пасадцы іх трэба ўкарочваць; абразаць трэба вострым нажом, каб зрэзы былі роўныя і кара не абдзіралася. Пасаджаныя ёлкі трэба некалькі разоў паліць, пакуль яны ня пойдуць расьці. У першы год ёлкі даюць слабы прырост. На другі год вясною абразаюць у іх вярхі для таго, каб дрэва мацней разрасталася ў бакі. На 3-ці і далеўшыя гады ёлку стрыгуць і з бакоў. і зьверху, прычым зьверху стрыгуць вясною, а з бакоў увосень. Ніжэйшы сукі ня стрыгуць, каб яны расьлі па зямлі і не пакідалі прасьветаў. Праз некалькі год ельнік зробіць добры доўгавечны плот, ня толькі ад стада, але і ад хатняй птушкі.

Акацыя добра расьце на ўсякай глебе, нават і на пескавой. Яна хутка расьце, у густых галінах акацыі любяць вадзіцца розныя птушкі, якія абараняюць сады ад кузурак. Жоўтая акацыя дае дабры ўзятак мёду для пчол. Недастаткам яе зьяўляецца тое, што яна хутка старэе і ад сьнегу абвісае да зямлі, але сьсекшы яе, ад пнёў растуць маладыя адросткі, яшчэ гусьцейшыя. Разводзіцца жоўтая акацыя больш пасевам насеньня. Зьбіраць насеньне трэба ў канцы лета з 1-га па 20-га жніўня. Рукамі абіваюць стручкі з усяе галіны разам. Сушаць струкі на палатне. Дзе хочуць золажыць абгародку з жоўтае акацыі, там ускапваюць на 5-7 вярш. зямлю ў глыбіню і на $1/2$ арш. ушырку і пасярэдзіне сеюць адзін ці два радкі насеньня незадоўга да марозаў. Вясною ўвесь засеў трэба выпалаць, каб трава не заглушыла ўсходаў, і ўспульхніць зямлю. Сеяць можна і ўраскідную-рукамі, але лепш радкамі: радок ад радку на 4 вярш. зярнё ад зярняці на $1/2$ вярш. Праз два гады жоўтая акацыя вырасьце і яе тады пачынаюць падстрыгаць, каб яна лепш расла ў бакі і ўжо праз 2-3 г. акацыя будзе добраю абгародкаю.

**Сел. А. Карнэйчык.**

# Галоўныя асеньнія работы на пасецы.

Каб пчолы добра перазімавалі, яны павінны мець патрэбны запас мёду. Разьмяркаваць мёд трэба так, каб лёгка было дастаць пчолам; інакш і з мёдам пчолы могуць памерці з голаду.

Зьбіраючы мёд, пчолы самі заўсёды разьмяркоўваюць яго правільна, але пчаляр, адбіраючы ўвосень лішку мёду,

нарушае правільнае яго разьмеркаваньне ў вульлі. Вось каб гэтага ня было, трэба ўмець правільна скласьці гняздо на зіму, бо ад неправільнага складаньня гнязда ў мала вопытных пчаляроў гінуць пчолы.

Складаць гнёзды на зіму пачынаюць пасля 1-га верасьня па новаму стылю. К гэтаму часу дзяткі ў вульлі будзе мала і можна будзе бяз шкоды скарачаць гнёзды.

Пры складаньні гнёздаў глядзяць перш за ўсё на тое, каб запасу мёду ў вульлі хапала на зіму. Мёду трэба пакідаць столькі, каб яго хапіла да мая месяца. Запасы мёду пакідаюпца гледзячы на тое, колькі пчол будзе ў вульлі зімаваць, а таксама і дзе будуць пчолы зімавапь — на волі ці ў будынку; калі на волі, дык трэба пакідаць на 10 фун больш. Такім чынам, пры зімоўцы ў будынку пакідаецца ад 20-25 фун. на вулей, а на волі ад 30 35, зважаючы яшчэ на тое, на колькі вялікая сям'я.

Складаючы гнёзды, трэба правільна разьмеркаваць рамкі з мёдам, чарвой і сушку, прымаючы пад увагу тое, што пчолы на запячатаным мёдзе зімою не сядзяць, а сядзяць на той вашчыне, якая або пустая, або з чарвой. Зьеўшы мёд, пчолы наступова пасоўваюцца ўсім клубком у глыб вульля. Мёд у вульлі павінен знаходзіцца каля самых пчол і там, куды рушацца пчолы.

Зімовае разьмеркаваньне сотаў (з мёдам), чарвы і сушшы робіцца ў залежнасьці ад сыстэмы ці тыпу вульля.

Усе рамовыя вульлі можна падзяліць на 4 галоўныя тыпы:

1. **Стаякі**, у якіх рамкі вузка-высокія ці нізка-шырокія, але размеркаваны ў некалькі ярусаў. Вышыня такога вульля больш шырыні і глыбіні.

2. **Ляжакі**, у якіх рамкі вузка-высокія ці нізка-шырокія, але вышыня менш шырыні ці даўжыні вульля.

3. **Надставачныя**, у якіх рамкі нізка-шырокія і вышыня вульля менш шырыні і даўжыні. Такія вульлі маюць надстаўкі ці магазыны.

4. **Скрыначныя**, у якіх корпус вульля і магазыны складаюць з паасобных невялікіх скрынак.

У залежнасьці ад тыпу вульля клубок пасоўваецца не аднолькава. У стаячых вульлях клубок пасоўваецца толькі уверх; у ляжачых — уверх і ўпоперак рамак; у надставачных—-уверх, ўдоўж і ўпоперак рамак; у скрыначных—уверх а часамі і поперак рамак.

У вульлях—стаяках мёд павінен займаць увесь верхні ярус рамак, калі вулей шмат-ярусны. У верхнім ярусе мёд павінен быць толькі ў крайніх рамках. У сярадзіне-ж пчолы робяць для сябе лёжы; тут павінны знаходзіцца рамкі

з чарвой і пустая вашчына. Калі вулей — стаяк аднаярусны з высокімі рамкамі, дык рамкі падбіраюцца так, каб мёд разьмяркоўваўся ў такім-жа парадку.

У вульлях — лежаках мёд павінен разьмяркоўвацца з аднаго боку вульля процілеглага ад лятка і чым далей ад лятка, тым мёду павінна быць больш. Клубок пчол у такім вульлі пасоўваецца спачатку ўверх па рамцы, потым пойдзе ўпоперак рамак і з заду вульля.

У надставачных вульлях мёд разьмяркоўваецца так, як у лежах, але к аднаму боку вульля. Самая крайняя рамка з боку процілеглага, дзе лежаць запасы, павінна быць поўнай мёду. Так разьмяркоўваецца мёд у надставачных вульлях, калі яны маюць халодны занос, г. ё. рамкі стаяць рабром да лятка. Калі-ж такі вулей мае цёплы занос, то мёд у ім трэба раскладаць так, як і ў лежаку.

У скрыначных вульлёх мёд павінен разьмяркоўвацца так і ў стаяках. У скрыначным вульлі трэба толькі аднящь верхнія дзьве скрынкі, якія тут служаць за магазыны, а самы ніжні за гняздо. Астаюцца на зіму другая і трэцяя зьнізу скрынкі.

Нарэшце, трэба сказаць некалькі слоў аб пыльцы. Яна таксама патрэбна зімою ў вульлі, хаця самі пчолы зімою яе не ядуць, але ў канцы зімы яна пчолам патрэбна будзе для выкармліваньня дзяткі. Дзеля гэтаго яе таксама трэба пакідаць у вульлі. Класьці соты з пылкою лепш за ўсё бліжэй да цэнтру гнязда.

Не малое значэньне мае вашчына, на якой пчолы зімуюць. Для зімоўкі лепш вашчына цьмяная; яна цяплейшая і пчолы на ей лепш зімуюць.

Пры складаньні гнязда, трэба адначасова рабіць зімнія ходы пчолам, прадзіравіўшы соты пад верхняй лінеечкай круглым кіёчкам. Па такіх ходах пчолам будзе лягчэй перабірацца з рамкі на раму, не баючыся застынуць (зьмерзнуць), як гэта часта бывае з імі, калі яны абыходзяць рамку з боку каля халодных сьценак вульля.

Селянін-пчаляр **А. Магучы.**

---

**Грамадзяне!** Чытаййце і пашырайце сваю родную часопісь. Змагайцеся з цэмрай—нашым галоўным варагам.

# Аб будове агнятрывалых будынкаў з гліны.

У цёплых старонках, як напрыклад Украіна, дык там амаль што ўсе будынкі пабудаваны з гліны. Чаму гэта так? Самае галоўнае, што няма лесу, ды няма і карысьці будаваць з дрэва, бо і з гліны добры будынак выходзіць. Іх хутка можна збудаваць і яны не баяцца чырвонага пеўня.

Настае час, што і нам, беларусам, трэба брацца за гліну, бо і ў нас не хапае лесу для ўсіх патрэб.

Калі гутарыш з селянінам аб гліняных будынках, дык часта чуеш адмоўнае разважаньне, што яны разваляцца. Праўда, мы жывём ня ў вельмі цёплай старонцы, але і ў нас ужо ёсьць шмат будынкаў збудованых з гліны, якія стаяць дзясяткамі год і не развальваюцца, а гавораць за тое, што, калі будынак збудованы правільна, дык ён і ў нашай Беларусі сябе вельмі добра апраўдвае.

Ад чаго бываюць няўдачы пры пабудове агнятрывалых будынкаў з гліны і як ад іх забясьпечыцца, мы ніжэй і пагутарым. А каб было больш зразумела, мы будзем браць практычна тых сялян, якія ўжо будавалі, ды будынкі не ўдаліся. Ад чаго гэта здарылася?

Самае галоўнае, трэба пачынаць пабудову гліняных будынкаў з самай раньняй вясны. Самы лепшы час дзеля будаваньня іх гэта: май, чэрвень, ліпень і палова жніўня.

Чаму гэта так, а таму што пазьней збудаваны з гліны будынак ня высахне да зімы, а раз ня высах, дык ён не замацуецца, а наадварот, вільгаць, захаваная ў гліне, замярзарзаючы зімою зробіць разбуханьне сьцен, а гэта і будзе прычынай развалу.

Такія выпадкі з агнятрывалымі будынкамі выклікаюць да сябе адмоўныя адносіны ўсяго ваколічнага насельніцтва, у сялян адпадае ахвота будаваць агнятрывалыя будынкі з гліны.

Мы таксама скажам, што такая будоўля нікуды ня варта і гэтак будаваць — дарма траціць сродкі і працу. Акрамя будаваньня рана вясною, трэба пад агнятрывалымі будынкамі класьці добрую падмуроўку (фундамэнт) на цэлы мэтр у глубыню. Самы лепшы грунт для падмуроўкі рабіць на глыбіню ў зямлі 0,70 мэтр. (1 арш.). У гэтым-жа выпадку, калі грунт гліняны, дык трэба на 1 мэтр ($22^1/_2$ вярш.), г. зн., на тую глыбіню, дзе ўжо не прамярзе зямля. Калі-ж на глінiстым грунце палажыць падмуроўку менш чым на 1 мэтр. дык тады гліна ад замаражаваньня і адтай-

ваньня пучыцца (разбухае), павялічваецца ў аб'ёме, а раз гэта робіцца, дык падмуроўка разбурваецца, а сьцяна будзе даваць шчыліны (трэшчыны).

Сялянства нацта ня любіць класьці ў зямлю глыбока падмуроўку, па-першае ад таго, што глыбешыя падмуроўкі даражэй абыходзяцца, а па-другое, проста ня ўсе ўразумелі гэту патрэбнасьць, разважаючы, што глыбокая падмуроўка гэта дарэмнае закопваньне ў зямлю дабра.

Упушчэньне робіцца і тым, што падмуроўка не падымаецца над зямлёю, на робіцпа, так званага, цокалю. Гэта вельмі кепска, бо зьнізу шмат вільгаці прасякае ў сьцяну. Ня трэба забываць зрабіць лёхі (аддушыны) у цокалі, дзеля праветрываньня абшару пад падлогай, бо калі гэтага не зрабіць, дык можа завесьціся вельмі дрэнная хвароба, так званы „дамавы грыбок". Гэта вельмі шкаўлівая хвароба; у год два яна прынясе вялікую страту, ад яе вельмі хутка псуецца падлога, а зьнішчыць грыбок вельмі трудна.

Яшчэ сялянства робіць вялікую памылку, што ня робіць ніякай ізоляцыі, інакш кажучы, не кладзе па цокалі толі ці бяросты. Гэта патрэбна для таго, каб з зямлі не прасякала ў сьцены вільгаць. Бяроста ці толь (толь, гэта прасмолены тоўсты картон) кладаецца ў драўляных будынках. Пры пабудове-ж гліняных можна палажыць 1 см. таўшчынёй цаменту, зьмяшаўшы з пяском 1 : 1, адна частка цаменту і адна частка пяску. Цамент ужываецца і пры драўляных будынках. Калі ёсьць дык можна накрыць на цамент яшчэ бяростай.

Раней, чым будаваць агнятрывалы будынак, трэба паклапаціцца, каб было чым зараз-жа, пабудаваўшы сьцены, і накрыць іх..

Памятайце, што шчыкатурыць у першы год ня можна. Бо калі гэта зразу збудаваўшы зрабіць, дык яна патрэскаецца, таму што сьцены як патрэбна не аселі.

Трэба адзначыць, што ў глінабітны будынак ня можна ўсяляцца ў той год, калі ён збудаваны, з тэй прычыны, што ў непрасохлым памяшканьні будзе шмат вільгаці, а гэта адаб'ецца як на даўгавечнасьці будынкаў, так і на здароўі жыхараў.

Вынікі з усяго наступныя:

1. Агнятрывалыя будынкі трэба рабіць вясною, як мага раней. 2. Класьці добрую падмуроўку на глінiстым грунце да 1 мэтра, на пяшчаным да 0,70 мэтр. 3. Трэба рабіць цокаль вышэй 0,50 мэтр. і ня менш як 0,30 мэтр, 4. У цокалі трэба рабіць лёхі, каб пад падлогай не заводзілася ўсякая гніль. 5. Раней, чым збудаваць будынак з гліны, трэба паклапаціцца, каб зараз-жа было чым яго накрыць. 6. Шчы-

катурку трэба рабіць толькі праз год, калі будынак дасьць належную асадку. 7. Засяляць глінабітны будынак можна толькі праз год. Толькі ў саманны будыеак можна ўсяляцца ў першы год, бо саман значна раней высыхае.

**Я. Талуціс.**

Плуг № 6 1928 г.

# Гаспадарчыя парады.

**Пытаньне.** Ці ёсьць просты і пэўны спосаб пазнаць цельную карову?

**Якім Тадарук.**

**Ддказ.** Пазнаць цельную карову на першых часах яе цельнасьці без вэтэрынарнага врача бывае трудна. Для пазнаваньня цельнасьці кароў шмат дзе ўжываюць наступны просты спосаб: выдайваюць з каровы трохі малака да сухой і чыстай пасудзіны, потым бяруць сухую і чыстую саломінку, макаюць яе ў малако і кроплю яго ўпускаюць у шклянку з чыстай вадой. Калі карова ня-цельная, дык кропля малака распусьціцца зараз-жа на паверхні вады ў шклянцы, калі ж карова цельная, дык кропля малака зваліўшыся з саломкі, зможжа дайсьці не распусьціўшыся да самага дна шклянкі.

**Пытаньне.** Як змагацца ў будынку з мышамі?

**Тодар Лабан.**

**Адказ.** Проціў мышэй можна ўжываць з пасьпехам марскую цыбулю (можна дастаць у аптэцы). Для гэтага цыбулю трэба добра ўгатаваць, дробна пасеч і зьмяшаць з кашай ці цестам. З сумязі прыгатаўліваюць галкі прыблізна вялічынёй у гарэх і раскідваюць іх па будынку.

Часам мышы ад аднаго разу ня гінуць, дык трэба даць гэтай сумязі з цыбулей паўтарна, прымешваючы да цыбулі новы дадатак, каб мышы не пазналі ў галках для сябе небясьпеку. Тут трэба захаваць асьцярожнасьць, каб галкі не паелі дамавыя жывёліны, якія таксама ад марской цыбулі атручваюцца.

**Пытаньне.** Некалькі раз мышы абгрызлі дамавую жывёлу ў хлеве. Парадзьце, як лячыць раны ад мышэй.

**А. Стаўбанюк.**

**Адказ.** Трэба старацца вынішчыць гэтых шкоднікаў. Раны ад мышэй бываюць часта не бязьпечнымі для жыцьця жывёліны. Як толькі гаспадар заўважыць такі выпадак, ён мусіць зараз-жа абспрынцаваць рану вадой, потым змазаць абгрызванае месца ёдам ці абсыпаць нафталінам, і рану забандажаваць. Подсьціл пад хворай жывёлай мусіць быць чысты, дзеля чаго яго трэба кожны дзень мяняць.

**Пытаньне.** Ці шкодна для сьвіней конскі кал і ці варта яго ім даваць у корм?

**В. С.**

**Адказ.** Ужываньне, як корм, конскага калу ў некаторых мясцох Беларусі практыкуецца.

Як паказалі навуковыя досьледы, кармленьне конскім калам, калі ён паходзіць ад старых коней, кормленых аўсом, дае прырост у вазе сьвіньні. Кал зьбіраецца ў хляве, сушыцца, а потым мелецца ці дробіцца. Кал трэба запраўляць іншым кормам, на які сьвіньні ласы. Запраўку паступова можна зьмяньшаць. Такім чынам авёс, не пераtраўлены ў жываце і кішках каня, пераtраўляецца сьвіньнямі.

**Пытаньне.** Часта ўночы куры безпакояцца, кудахтаюць і худзеюць, пасьля чаго прападаюць. Што гэта за хвароба і як яе лячыць?

**Янка Сарока.**

**Адказ.** Трудна за вочы ўгадаць хваробу вашых курэй Па апісаньню прыкмет можна думаць, што ў вашым курніку зьявіўся птушыны клешч, ці як яго яшчэ называюць чырвоным павуком. Клешч бывае велічынёй з галоўку шпількі, мае здольнасць хукка пладзіцца, а асабліва ў брудных курніках.

Пазнаецца прысутнасць клешча наступным спосабам: Уночы ставяць некалькі курэй на чысты аркуш паперы, на якой хутка зьяўляюцца гэтыя шкоднікі. Таксама кладзецца на градкі ў курніку чыстую вату і днём там можна знайсьці павукоў.

Для змаганьня з гэтымі шкоднікамі, трэба перш за ўсе зьнішчыць іх у курніку, для чаго змазваюць ўсе шчэлкі ў курніку вапнай з лізолам ці крэалінам і абліваюць гэтымі складнікамі падлогу і ўсе рэчы. Рэчы, калі іх можна замяніць новымі, лепш спаліць. Курыцу таксама вымыць у рашчыне лізолу ці крэаліну з водой (100 частак вады і 1-2 часткі лізолу ці крэаліну).

**Пытаньне.** Я чуў што можна дастаць новае ўдабрэньне для палей пад назовам „Nitrofos“. Што гэта за ўдабрэньне і якія яно мае ўласьцівасьці?

**Антон Смільга.**

**Адказ**. Nitrofos выпусьціла фабрыка ў Хожаве. Складаецца з 15,5% азоту ў форме сялетры аман'яковай і 9% фосфаравага квасу ў нераспушчальнай форме.

Цэніцца ў Nitrofose ці Хожаўскай сялетры толькі азот, які на лёгкіх глебах менш выпаласкваецца ў ніжэйшыя слаі за чылійскую сялетру, і дзеіць за апошню марудней.

Фосфаравы квас у Nitrofosie мае мала гаспадарчай вартасьці дзеля таго, што ён знаходзіцца тут у нераспушчальнай у вадзе форме і мала даступны для карэньняў культурных расьлін.

**Пытаньне**. Калі лепш сеяць у садовай школцы насеньне яблынь і ігруш і якое ляпей для гэтай мэты надаецца насеньне?

**Я. Пятровіч.**

**Адказ.** Насеньне яблынь і ігруш у садовай школцы можна сеяць увосень і вясной У першым выпадку шмат насеньня нішчыцца мышамі і рознымі лічынкамі. Каб ня страцілі здольнасьць да прарастаньня вясной, насеньне яблынь і ігруш „страфікуюць" (глядзі кніжку № 3 1927 г.)

Насеньне лепш зьбіраць з дзікай яблыні і ігрушы; дзічкі ад такога насеньня даюць больш разьвітую сыстэму карэньняў.

Сьпелыя яблыкі і ігрушы, разрэзаныя на часткі, кладуцца ў кадку і зпаволі паліваюцца вадой. Маса пакідаецца гніць, пакуль з яе ня можна будзе лёгка аддзяліць насеньне пры расьціраньні рукамі. Сьцёртую масу працэжваюць на рэшаце, аддзеляецца насеньне, якое потым высушваецца на паветры. Пры пасеве позна ўвосень, насеньне можна не выдзяляць ад масы, а разьбіўшы яе калатушкай — садзяць разам са згніўшай масай яблыкаў ці ігрушаў.

# Парады для гаспадынь.

## Ад чаго залежыць якасьць квашанай капусты.

Капуста разам з бульбай ня сходзіць са стала беларускага селяніна амаль што ня цэлы год. Загатаўляюць яе ў запас у сечаным відзе, загатаўляюць яе крышонкай, а то і цэлымі качанамі. Шкада, што часта нашы вясковыя гаспадыні ня могуць патрапіць з яе закваскай, што шкодна адбівацца на яе смаку.

Перш-на-перш смак залежыць ад чыстаты бочкі. Яе трэба добра вышараваць шчоткай з попслам або содай, да чаго добра было б дадаць з міску ліповага вугаля. Добра

гэту чыстку зрабіць некалькі раз. На астатку ня шкодзіць запаліць у бочцы серку і закрыць пасудзіну векам. Толькі цяпер бочку, старанна выпаласкаўшы, можна ўжываць для квашэньня капусты.

Каб капуста была смачнай, трэба яе сеч чыстую, белую, і тонкімі істужачкамі. Пры саленьні капусты трэба дадаць кміну і пажаданна перекладваць яе салодка квасьнымі яблыкамі. У некаторых мясцох гаспадыні любяць да капусты дадаць на вядро — 2—3 маркоўкі, ад чаго капуста дастае асобы смак і колер.

Пасаліўшы капусту, яе трэба ўлажыць і добра ўтаўчы, каб яна пусьціла сок, і гэты горкі сок усуваецца. Як напоўніцца бочка, яе прыкрываем чыстым палатном, накладваем круг і націскаем камянём. Па 8—10 днях камень і круг зьнімаюць, зьбіраюць акуратна ўсю пену, перабіваюць аж да споду вострым секачом (і тут чыстата перш-на-перш). Паўтараюць гэту опэрацыю падрад некалькі дзён, старанна зьбіраючы пену. Потым ізноў прыкрываюць бочку чыстым палатном і вымытым векам з камянём. Па дзесяцёх днях бочку выносяць да схоўніка, а па 3-х тыднях капуста ўжо будзе квасная. Палатно, круг і камень увесь далейшы час трэба добра абмываць раз на дыдзень, а калі цёпла на двары, дык і часьцей.

У пачатку квашэньня трапляецца, што вада на капусьце зьнікла. Тады трэба даліць гатаванай і ахалоджанай вадой,

У некаторых мясцох, па астатняму ўбіцьцю капусты, яе заварваюць варам і трымаюць капусту адкрытай 24 гадз., каб вышла ўся горкасьць.

Хто ня мае добрага схоўніка, той мусіць капусту трымаць у хаце, пакуль яна ня сквасіцца.

У шаткаваную капусту можа уккадваць качаны, ці лісьцё капусты.

## Капуста на салату.

У невялікай бочачцы, ці іншай пасудзіне можна наквасіць капусту на добрую салату. Пашаткаваную тоненька капусту трымаюць так усю ноч на стале, каб вышла горкасьць. Потым солюць і ўтрамбоўваюць у падсудзіне, пасыпаючы. бурачкамі, пакроянамі на кусочкі. Ад гэтага капуста дастае прыгожы ружовы колер. Далей паступаюць, як пры звычанай заквасцы.

## Сурагаты мыла.

Інжынер Інгвэр раіць ужываць замест мыла наступныя сурагаты:

1) Для чышчэньня капалюшоў „Панама" і ўсіх рэчаў, забруджаных у тлустасьць — мяккую белую гліну, якая мае здольнасьць убіраць у сябе ўсе віды жыроў.

2) Да мыцьця далікатных матэрый — кіслую цёплаватую масьлянку.

3) Для чышчэньня плям на чорным едвабу — водны раствор кароўей жоўці.

4) Крахмальная мука ад дзікага каштана (дабываецца таксама як крахмал ад бульбы) надаецца для мыцьця далікатнай вопраткі.

5) Корань травы мыльнянка (Saponaria officin), якая расьце ў нас на пяшчаных бярагах рэк, вазёр і сенажацях дае пеністы настой ў гарачай вадзе, надаюшчыйся для мыцьця далікатных вопратак.

# Сельска-Гаспадарчая Хроніка.

## Беларускі лён заграніцай.

У апошнія часы заграніца пачынае цікавіцца беларускім лёнам. На рынках Чэхаславацыі і Нямеччыны наш лён заваяваў сабе ўжо добрую рэпутацыю. Дзісенскі лён—трапаны, Валожынскі і Сьвянцянскі — сланцы вядомы ўжо на сусьветным рынку, як добрыя гатункі. Беларускі лён, калі ня можа конкураваць з лёнам С. С. Р. Р. па якасьці, дык за лён польскі і літоўскі стаіць значна вышэй.

Ня гледзачы на добры папыт, якім карыстаецца наш лен на сусьветным рынку — цэны яго ўсе-ж такі трэба прызнаць вельмі нізкімі Прычыны гэтага хаваюцца: 1) у ненармальных палітічных і экономічных зносінах Польшчы з некаторымі суседнімі дзярджавамі і 2) Льняная справа цалком сягоньня перададзена ў рукі прыватных гандляроў, якія дыктуюць цэны на ўнутраным рынку нашага краю спэкуляцыйныя.

## Якая прадбачыцца цана на лён у сёлетнім годзе.

Экспортэры лёну ў Вільні прадбачаць, што сытуацыя на сусьветным рынку для беларускага лёну складаецца памысна, дзеля чаго чакаюць, што цэны на лён будуць стаяць высокія, хаця не выключаюць розных магчымых труднасьцяў па збыту.

## Сборы лёну ў С. С. Р. Р.

Па афіцыяльным данным, лён у Савецкай Расеі ў сёлетнім годзе прадбачыцца яшчэ лепшы, чым у мінулым годзе. Асабліва чакаецца добрага ўраджаю з доўганцовога раёну.

## Лён ў Голяидыі,

Дзякуючы памыснай пагодзе, зборы лёну у Голяндыі сёлета добрыя.

## Лён ў Бельгіі.

Па весткам лён ў Бельгіі як па ўраджаю так і па якасьц-селёта будзе добры.

## Лён у Францыі.

Наогул ўраджай лёну у Францыі памысны.

## Лён у Латвіі, Эстоніі і Літве.

Халодная і даждлівая пагода перашкаджала росту лёну Ураджай прыдбачыцца ня поўны.

## Паўночны кірмаш у Вільні.

З 18 жніўня па 9 верасьня г. г. у Вільні адбыўся Паўночны Кірмаш. Беларускія арганізацыі,—апрача „Зьвязу" учасьцья ў кірмашы-выстаўцы ня бралі, затое рэгіянальны аддзел амаль цалком быў запоўнены хатнімі вырабамі беларускае вёскі. З экспанатаў жывёлагадоўлі, выстаўленых памешчыкамі на беларускіх землях, больш усяго зварчвалі увагі коні палепшанай мясцовай пароды, каровы-голяндкі і каровы чырвонага польскага ската.

---

## Цэны прадуктаў у Вільні.

| | | |
|---|---|---|
| Жыта 1 пуд. | 9.00—10,00 | зл. |
| Пшаніцы „ | 11,00—12,00 | „ |
| Ячмень „ | 8,50— 9,00 | „ |
| Авёс „ | 8,00— 8,50 | „ |
| Ячменныя крупы 1 кіл. | 00,80—00,90 | „ |
| Бульба „ „ | 00,15—00 20 | „ |
| Буракі „ „ | 00,35—00,50 | „ |
| Цыбуля „ „ | 00.40—00.60 | „ |
| Саланіна „ „ | 4,00— 5.00 | „ |
| Масла нясоленое „ | 5.00— 6,00 | „ |
| „ солянае „ | 3,50— 4 50 | „ |
| Мяса валовае „ | 3,00— 3.20 | „ |
| Сьвініна „ | 3,20— 3,50 | „ |
| Бараніна „ „ | 1,80— 2,00 | „ |
| Сена 1 пуд. „ | 1,60— 2,20 | „ |
| Яйкі (штука) | 00,15—00,20 | „ |
| Даляр | 8,88— 8,90 | „ |

---

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, вул. Св. Анны 2-3.

**Выдавец і Рэдактар А. Уласаў.**